

# АГІНСКІ Міхал Клеафас

*(07.10.1765 - 15.10.1833)*
***дыпламат, кампазітар, вялікі падскарбі літоўскі***



Паходзіў з княскага роду Агінскіх, які належаў да вышэйшых арыстакратычных колаў Рэчы Паспалітай.

Нарадзіўся ў Гузаве, недалёка ад Варшавы. Атрымаў добрую дамашнюю адукацыю. У 1786 пасол на сойме, у 1788 камісар скарбовай камісіі Вялікага княства Літоўскага, у 1789 літоўскі мечнік, у 1789 надзвычайны пасланнік у Галандыі. У 1791 вярнуўся на радзіму, займаўся пытаннямі спадчыны маёнткаў на Беларусі, якія адышлі да Расіі. Быў дэпутатам Гродзенскага сойма 1793. У 1793-94 вялікі падскарбі літоўскі.

У 1794 удзельнічаў у паўстанні Т. Касцюшкі. Пасля ўзяцця расійскімі войскамі Вільні Агінскі выехаў у Варшаву. За ўдзел у паўстанні яго маёнткі былі канфіскаваны. Жыў у Вене, Венецыі, Парыжы.

Атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму і ў Гродне прысягнуў на вернасць Аляксандру I. У 1802-06 жыў у маёнтку Залессе Ашмянскага павету, дзе пабудаваў новы палац, парк у англійскім стылі, аранжарэі, звярынец, сабраў вялікую бібліятэку.

У 1807 у Італіі быў прыняты Напалеонам I. У 1810 у Пецярбургу атрымаў ад цара званне сенатара і тайнага саветніка, ордэны Св. Уладзіміра і Аляксандра Неўскага.

У траўні 1811 падаў цару праект пра заснаванне Вялікага герцагства Літоўскага. Напярэдадні вайны 1812 услед за Аляксандрам I прыехаў у Вільню, потым вярнуўся ў Пецярбург, дзе знаходзіўся да канца вайны. У 1817 у Вільні надрукаваў два зборнікі сваіх твораў. Пасля вайны з Напалеонам вяртаецца ў Залессе, дзе застаецца да 1822, паціху адыходзячы ад палітычных спраў. У 1823 назаўсёды выехаў у Італію, жыў у Фларэнцыі, дзе і памёр.




Яму прыпісваецца аўтарства музыкі песні «Яшчэ Польшча не загінула», якая стала польскім нацыянальным гімнам. У залескі перыяд пераважна займаўся музыкай; у гэты час напісаны славуты паланез «Развітанне з Радзімай». Галоўнае ў творчай спадчыне кампазітара - фартэпіянныя п'есы, паланезы, мазуркі, маршы, вальсы і рамансы. Аўтар музыкі і лібрэта оперы «Зеліда і Валькур, або Банапарт у Каіры», трактата «Лісты пра музыку» (1828). У 1826-27 у Парыжы выдадзены 4-томныя «Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1788 па 1815 г.».

250-годдзе з дня нараджэння дыпламата, грамадскага і палітычнага дзеяча, кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага ў 2015 годзе плануецца адзначыць у Беларусі, Літве, Польшчы і Францыі.

На 37-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА прынята рашэнне аб уключэнні юбілея Агінскага ў каляндар памятных дат ЮНЕСКА.

# АСТРАМЕЧАЎСКІ РУКАПІС

БРЭСЦКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ АЛЬМАНАХ

БРЭСЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДДЗЕЛ ІДЭЯЛАГІЧНАЙ РАБОТЫ, КУЛЬТУРЫ І ПА СПРАВАХ МОЛАДЗІ РАЙВЫКАНКАМА

РАЁННЫ ДОМ РАМЁСТВАЎ

**Рэдактар і ўкладальнік:**

Аляксандр Валковіч



**Аўтары праекта:**

Аляксандр Валковіч, Тацццяна Лук'янюк

Камп'ютарная вёрстка І.П. Суворова
Карэктар І.У. Хмель

**Кантакты:**
(+375 29) 20-161-02
(+375 162) 965-957
e-mail: kotlas@tut.by

Падпісана да друку 19.03.2014.
Фармат 70x100 1/16. Гарнітура PF Agora Serif Pro.
Тыраж 99 экз. Ум. друк. арк. 8,10.
Друк цыфравы. Надрукавана ТДА «Артлайнсіці», г. Брэст, вул. Карбышава, 74.
Арыгінал макет падрыхтаваны ТАА «Паліграфіка», зак. 69-2014.
Пасв. 2/2 ад 16.08.2013, пасв. 1/22 ад 16.08.2013, вул. Стафеева, 21, 224007, г. Брэст
тел. (+375 162) 49-26-79, www.poligrafika.by

**1-я і 4-я с. вокладкі:**
Тацяна Якоўчык. Святочны рушнік. Фрагмент.

У афармленні выкарыстаны выцінанкі мастачкі Святланы Вяль

Выходзіць штоквартальна
Мова: беларуская, руская

**№ 1 [5]•2014**

У НУМАРЫ:

О, дзіўная прыгажосць! ... 2
**АСТРАМЕЧАВА І АСТРАМЕЧАЎЦЫ** ... 3
Гербы владельцев Остромечево в XV–XX веках ... 4
Будни и праздники Остромечево ... 5
**АСТРАМЕЧАЎСКІ РУКАПІС: МІНУЛАЕ І СУЧАСНАСЦЬ** ... 7
Наканавана будзіць памяць, веру і надзею ... 9
**ЧАРОЎНЫЯ СПЕВЫ І ПАДАННІ СПАДЧЫНЫ** ... 13
Старажытныя песні Прыбужжа ... 14
Жартоўныя песні ... 16
Сямейна-бытавыя ... 18
Вясельныя песні ... 20
Любоўныя песні ... 21
Колокольчик звенит – душа радуется ... 25
**НАРОДНЫЯ СВЯТЫ НА БЕРАСЦЕЙШЧЫНЕ** ... 31
«Грамніцы – палова зіміцы» ... 32
«Жаворонки прилетели, на головку детям сели» ... 34
«А мы масленку дожыдалы...» ... 34
**СКАРБНІЦА НАРОДНЫХ ТАЛЕНТАЎ** ... 39
«А песня долей мне была прызначана...» ... 40
Брестская фолк-группа «Cad Goddeu» ... 43
**СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ** ... 45
Из домашнего альбома ... 46
Лыщицкий клад серебряных римских денариев ... 48
Книга «Фрегатъ «Паллада» – летопись научного и духовного подвига нашего земляка Иосифа Антоновича Гошкевича ... 51
В Скоках прошел фестиваль, посвященный Первой мировой войне ... 53
**ЛІТАРАТУРНАЯ СЯДЗІБА** ... 55
І сама яна была, як песня... ... 56
Центр творчества детей и молодежи Брестского района ... 60
«Два крыла на две страны» ... 66
Кніжная зала ... 71
**ДОМ РАМЁСТВАЎ** ... 73
Кузнец, выковавший серп ... 74
Чудаки украшают мир ... 77
**КАРАНІ** ... 81
Песенна-інтымная лірыка з «Аршанскага зборніка» ... 82
**У ДАПАМОГУ ЎСТАНОВАМ КУЛЬТУРЫ** ... 87
«Гуканне вясны» ... 88
**КАЛАЎРОТ КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЦЯ** ... 91

*З «Астрамечаўскага рукапіса»*
*Апрацоўка для гітары Я. Грыдзюшкі*

# О, дзіўная прыгажосць!

Cantabile



# Старинные карты и символы Остромечево

## Гербы владельцев Остромечево в XV–XX веках



**«Корчак»**
*(герб рода Ильиничей)*



**«Огинец» («Брама»)**
*(герб родов Огинских и Пузынов)*



**«Пузына»**
*(герб рода Пузынов)*



**«Рох II»**
*(герб родов Костюшек и Сузинов)*




Фрагмент карты Стрельбицкого 1865 г.




Фрагмент карты XV века




Фрагмент карты 1935 г.

# Будни и праздники Остромечево

## *Крещение Господне, Богоявление 19 января 2014 г., Остромечево*



Освящение воды в Свято-Никольском храме д.Люта



Жители Остромечево готовятся принять ледяную купель



Личным примером: председатель СПК «Остромечево» Алексей Скакун



После купания – горячий чай.



Водокрещению все возрасты покорны





*Фото Михаила Губарева*




Ветераны сельхозпроизводства СПК «Остромечево». Снимок на память. 2013 г.



Премьер-министр Беларуси Михаил Мясникович принимает сувениры от юных остромечевцев. 26.04.2013 г.

*Фото Вячеслава Михаевича, Валерия Бабия*

***Уладзімір СІТУХА***

# У гонар альманаха «Астрамеча́ўскі рукапіс»

Расправіў крылы, нібы птах,
У раёне Брэсцкім альманах –
Славутай вёскі дзіўны сшытак:
Для ўсіх людзей святы набытак;
Для тых, хто сее жыта,
Хто вучыць, лечыць ад душы,
Надзею ўзяўшы ў спарышы...
Чытай яго. І сам пішы,
Вучыся еднасці ў цішы...
У сэрцах знойдзе ён прапіску!
Паклон стваральнікам мой нізкі:
І сёнешнім, і з даўніны –
Зачыну іх няма цаны.
Каб перашкоды ўсюды рушыць,
Сагрэць цяплом, надзеяй душы,
У сэрцах веру абудзіць,
Каб мы маглі шчасліва жыць.
Каб мог народ у поўны рост
Да мэты рухацца наўпрост –
На розны густ, любы ўзрост
Расправіў крылы, нібы птах,
Над кутам Брэсцкім АЛЬМАНАХ!

*29.11.2013 г.*

**Прэзентацыя**

# НАКАНАВАНА БУДЗІЦЬ ПАМЯЦЬ, ВЕРУ І НАДЗЕЮ

## Брэсцкаму раённаму альманаху «Астрамечаўскі рукапіс»

**Прэзентацыя Брэсцкага раённага альманаха «Астрамечаўскі рукапіс» – першага на рэгіянальным узроўні ў нашай краіне**













У гэты дзень Астрамечаўскі Палац культуры сабраў у сваёй утульнай зале многіх людзей – ад кіраўнікоў раённай вертыкалі да ўдзельніцы фальклорнага калектыву. Ад вядомага старшыні перадавога сельскагаспадарчага кааператыва да загадчыцы сціплага вясковага клуба і майстрыхі-вышывальшчыцы. Ад універсітэцкага выкладчыка і студэнтак-першакурсніц – да самай малодшай удзельніцы дзіцячага танцавальнага гуртка і ветэрана самадзейнага хора. Усіх іх аб’ядноўвала адно: жаданне, каб «нарадзіўшаеся дзіцятка», так ласкава назвала альманах дырэктар Дома рамёстваў Таццяна Лук’янюк, мела

шчаслівую будучыню і моцна трымалася на нагах.

На сцэну ў гэты дзень выходзіла шмат гасцей, кожны марыў выказаць добрыя пажаданні «першапраходцу».

Ніяк не магло абысціся гэтае мерапрыемства без выступлення галоўнага рэдактара і ўкладальніка альманаха Аляксандра Валковіча, які паведаў аб сваіх планах на будучыню, аб цікавых і незабыўных фальклорных экспедыцыях, аб тым, чым сёння жыве выданне. «Рубрыкі альманаха адлюстроўваюць цікавыя і ўнікальныя матэрыялы пра музычную, песенную, гістарычную, вусна-паэтычную, харэаграфічную і літаратурную спадчыну Брэсцкага краю», – паведаміў Аляксандр Міхайлавіч.

Доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускага літаратуразнаўства БрДУ імя А.С. Пушкіна Іна Швед у сваім эмацыянальным, характэрным толькі ёй выступленні падкрэсліла, што з'яўленне такога альманаха неабходна і дзякуй тым, хто працуе над яго стварэннем не дзеля матэрыяльных дабротаў, а добраахвотна, для тых, хто хоча ведаць традыцыі і гісторыю свайго роднага краю, сваёй мовы. «А навошта тады ўвогуле збіраць, расшыфроўваць, сістэматызаваць сабраныя матэрыялы, калі асноўная маса чытачоў будзе пазбаўлена знаёмства з гэтымі цудоўнымі творамі?» – падкрэсліла Іна Анатольеўна.

У той жа час на прэзентацыі справядліва адзначылі, што без фінансавання выданне ніяк не можа жыць. Такая дапамога альманаху неабходна.

«Са свайго боку мы прыкладзем усе намаганні, каб падтрымаць гэты ўнікальны праект. Гэта неабходна для вяртання нашай гістарычнай спадчыны, вельмі важна працягваць прапаганду народных культурных традыцый рэгіёну, – падкрэсліла намеснік старшыні райвыканкама Людміла Жуковіч. – Аднак ужо сёння мы з упэўненасцю можам сказаць, што «Астрамечаўскі рукапіс» – яркі, рэгіянальны культурны брэнд Брэсцкага раёна».

Вельмі прыемна і тое, што, дзякуючы Уладзіміру Сітухе, з'явіўся першы верш, прысвечаны маладому выданню. Як урачыста і яскрава гучаць яго першыя радкі: «Расправіў крылы, нібы птах, у раёне Брэсцкім альманах!»

Ажыўлялі і ўзвышалі мерапрыемства музыка, песні і танцы астрамечаўскіх фальклорных калектываў, вучняў музычнай школы.

Напрыканцы сустрэчы другі ўкладальнік альманаха Таццяна Лук'янюк выказала пажаданне, каб сапраўднай візітоўкай Брэсцкага раёна стаў уласны фестываль традыцыйнай культуры, падрыхтаваны на аснове славутага сшытка. Што ж, было б някепска, каб гэтыя планы ажыццявіліся. Гэтая яскравая падзея, безумоўна, дапамагла б многім людзям пазнаёміцца з цудоўным прыбужскім кутком.

Артыкул хацелася б скончыць пранікліваімі словамі галоўнага рэдактара рэспубліканскага часопіса «Вясёлка» Уладзіміра Ліпскага, з якіх пачынаецца трэці выпуск «Астрамечаўскага рукапісу»: «Дай жа Бог гэтаму народжанаму Дзіцяці даўгалецця, творчых крылаў і бясконцага натхнення. Дай жа Бог усім нянькам гэтага выдання неспакою, шчадроты, творчых крылаў і мудрасці. Дай жа Бог, каб Брэсцкі краязнаўчы альманах жаданым госцем увайшоў у кожную сям'ю і абудзіў Памяць, Веру і Надзею ў сучаснікаў зямнога раю. Хай так станецца, міласэрны Божа!»

*Алена СЕЗІНА*
*Фота Юрыя МАКАРЧУКА*



Рэдактар альманаха Аляксандр Валковіч



Выступаюць студэнты-філолагі БрДУ імя А.С. Пушкіна



Дырэктар раённага Дома рамёстваў Тацяна Лук'янюк



Прафесар Іна Швед



Куратар праекта "Астрамечаўскі рукапіс" Людміла Жуковіч і старшыня СПК «Астрамечава» Аляксей Скакун



У зале было шматлюдна...




На сцэне – народны ансамбль музыкі і песні «Астрамечаўскія лявоны»



Вядучыя свята Аляксандр Лук'янюк і Алена Масько



Народны майстар Галіна Масюк і паэт Уладзімір Сітуха



«Прывітальны танец» у выкананні ансамбля «Местачковыя казыры»



Майстар па саломапляценню Марыя Барысюк (злева)



Дацэнт кафедры беларускага літаратуразнаўства БрДУ імя А.С. Пушкіна Уладзімір Сенкавец




Выступаюць юныя артысты Астрамечаўскай ДШМ (кір. Н.Мацюлькова)



Паэтка Любоў Красеўская




Фальклорны ансамбль Матыкальскай ДШМ (кір. Л.Марчук)



Дырэктар выдавецтва «Паліграфіка» Аляксандр Сувораў

# СТАРАЖЫТНЫЯ ПЕСНІ ПРЫБУЖЖА*



***ГУЧКО Тамара Львовна,***
*1960 г.р.*
*доярка колхоза "За мир",*
*д. Страдечь,*
*Брестский район.*
*Запись 1991 г.*

## ОЙ, ЛЫТІЛА ЗЫЗУЛЕНЬКА

Ой, лытіла зызуленька
Через сад-диброву.
Ны выжала пшанычэньку,
Выжала солому – 2 р.
Ой, нашчо мне та солома,
Як зырня ны мае.
Ой, нашто мні жіть на светі,
Як мамы не мае.

Всі дівчата мамы маюць,
А я тато маю.
Сім раз воду набырала
З тыхого Дунаю.
Увосьмый напылася – 2 р.

Сім раз воду набырала,
Увосьмый напылася.
Шчтоб я міла рідну маму,
Я б не журылася.

Ой, піду я на могілу,
Дай стану пытаты,
Чы ны прыйдэ рідна маты
Косу росчысаты – 2 р.

Іды, доню, до домоньку,
Зоры выгораты.
А я прыйду по вечеры
Косу росчысаты – 2 р.

Прыйшла доня додомоньку,
Сіла вечераты,
Ждала, ждала рідну маму,
Дай стала плакаты – 2 р.

** Друкуецца паводле арыгіналаў, якія захоўваюцца ў фальклорна-этнаграфічным архіве раённага Метадычнага цэнтра (кіраўнік Ю.А. Далгова) адзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі (кіраўнік Л.П. Балашова) Брэсцкага райвыканкама. Захоўваецца граматыка і сінтасіс аўтарскай мовы.*

# РАЗБУШЕВАЛОСЬ ЧОРНЕ МОРЕ

Разбушевалось чорне море,
Разбушевался океан,
На берегу сідела Ліля,
А рядом с нею капітан.

Я завтра, Ліля, уезжаю,
А через год я пріплыву.
Поверь мне, Ліля дорогая,
Поверь, что я тебя люблю.

Прыйшоу я, Лілечка, прощацца,
Прыйшоу я, Лілечка, сказаць,
Не разрешают мне женіцца,
Не разрешают тібе браць.

От год прайшоў, моряк вернулся,
Корабль к берегу прыйшоў,
А капітан з разбітым сэрцам,
Красатой Лілю не найшоў.

Взайді, взайді заря морская,
І осветі морское дно,
Здесь моя Ліля утонула
І не відав ее давно.

Зачем ты свечі зажігала,
Когда не думала тушіть,
Зачем любовь распочівала,
Когда не думала любіть.

# ОЙ, У ТІМНОМУ ГАЮ

Ой, у тімному гаю
Стелецца нізом туман.
Часто гуляў з дівчіною
У тёмному гаю козак.

Гулялі воні, гулялі,
До ніх ціганка прійшла.
Даруй, деўча, свою ленту,
Праўду скажу тобі я.

А я ціганкам ны віру,
Мілій кохае мене.
Війді, ціганка, із гаю
Хай я не бачу тебе.

Ціганка із гаю не выйшла.
Праўду сказала мені.
Мілій тебе покідае,
Більш не верніцца ні.

Ой, у тімному гаю
Стелецца нізом туман.
Більш не гуляў з дівчіною
У тімному гаю козак.

# ОЙ, ТАМ ЗА ГАЕМ, ГАЕЧКАМ

Ой, там за гаем, гаечкам,
Стэліцца ў полі туман.
Часто прыходзіў до гаю
І з дзіўчыною козак – 2 р.

Там воны часто гулялі.
Цыганка до іх подыйшла.
Дай жэ мні ленту чырвону,
Правду скажу тобі я – 2 р.

А як ны маеш чырвону,
Дай жэ мыні голубу,
Козак тэбэ ны кохае,
Козак мае другу – 2 р.

А я цыганкам ны віру.
Цыгане зводзяць з ума.
Выйды, цыганка, з гаю,
Нэх я побуду сама – 2 р.

Цыганка із гаю ны выйшла.
Ленту мэні ны дала.
Казака в мэнэ забрала,
Другій дівчыне дала – 2 р.

Цыганка із гаю ны выйшла.
Стала вуна на краю.
Чуе, як дзіўчына плачэ,
У бярозовым гаю – 2 р.

Ой, ты, казачэ-соколю,
Ні зводзь дзіўчыны з ума.
Бо вона бідна сірітка,
Таты і мамы ныма – 2 р.

Ой, там за гаем-гаечком,
Стэліцца ў полі туман.
Більш ны прыходыць ду гаю
І з дзіўчыною козак.

# ЖАРТОЎНЫЯ ПЕСНІ

## НА ГОРОДІ КАЛІНОНЬКА

На городі калінонька,
На обліжку бузіна.
Чоловік мій у дорозі,
Десь поіхаў тай нэма.

Чоловік мій у дорозі,
Десь поіхаў тай нема,
А я піду пошукаю
Свого кума Васіля.

По базарі я ходыла,
Прыодылася.
З своім кумом Васылім
Я зустрылася.

Ой, ты, кумцю, люба моя,
Горілочка прі мені.
А шчоб нас ніхто не бачіў,
Посідаем у бузіне.

На городі ў бузіне
Седять кумы двое,
Ніпіліся горілочкі,
Веселі обое.

Прыезджае чоловік,
Прыходіть до хаты.
Дэ ж це жінка, шчо нема,
Тай пішоў шукаты.

## КУМА

Сяжу дома я адна,
Скучно мне ў хате.
Ой, пойду я до кумы,
Новосцей шукаці.

Як прыйшла я до кумы,
Стала под сцяною.
А мой мілій чернобровій
Любіцца з кумою.

Ставіць кума пляшку,
На закуску рыбку.
А я ўзяла не сцярпела
Дай побіла шібку.

Прішла я додому,
Дай лега ў койку.
Завязала чёрной хусткой
Бедную головку.

Пытаецца мілый,
Колі захворала.
Ой, тоді калі ў кумы
Шібочка лятала.

Сяджу дома я одна,
Скучновато ў хате.
Зноў пойшла я до кумы
Новосцей пытаці.

Кума, моя кума,
Грязно не убрала.
Чаму ў тебя, кумочка,
Шібочка побіта.

Есть у мене курка,
Корочка пугліва.
Яек лецела через хату,
Шібочку побіла.

Кума, моя кума,
Хопіць ты брохала,
Бо я ўчора бы цябе
З мужоньком застала.

Кума, моя кума,
Цябе не баюся.
Бо я с твоім мужоньком
Дзесяць год люблюся.

# ЧОЛОВІЧЕ Я СЛАБА

Чоловіче я слаба,
Боліть мене голова.
Я еі боюсь та смерті,
Шчой безсповеді умерті.

А піп сповідае,
За гріхі карае.
А я попе прызнаюся,
Шчо з кумом кохаюся.

А піп каже можно, можно,
Тількі треба осторожно,
Шчобі діты не званалі,
Шчоб батькові не сказалі.

А мій мілій на порог,
Діты кажуть тату,
Ой, шось у наші хаті е,
Шчо нам спаті не дае.

Воно ість,
Воно п’е,
Воно шчо вечоро ходіць
До нашее мамі.

# ТЭЧЭ ВОДА КАЛАМУТНА

Тэчэ вода каламутна,
Кажуть, шо я баламутна.
Мене маті шчо дня была,
Бо я ў школу ны ходыла.
Я урокей ны учыла,
Бо на танцы ўжэ ходыла.
Пішла ў вэчерню школу,
Закохалася ў Міколу.
Тэчэ вода дай стылая.
Мене маты шчо дня лае.
Ой, мамуся моя, він хорошы,
Шчэ богато мае грошей.
Будэм, мамцю, мы любытыся,
Хочэ він на мні жэнітіся.
Школу мобыть я покіну,
Давай хаті половіну.
Распісатісь я ўжэ ўмію,
Наробытісь я шчэ ўспію.
Буду дома спочіваті,
А Мікола полюваты.

# СЯМЕЙНА-БЫТАВЫЯ



***МАКАРЕВИЧ***
***Ирина Романовна,***
*1911 г.р., неграмотная,*
*д. Страдечь, Брестский район*
*Запись 1991 г.*

## ОЙ, ДАЙ БОЖЭ

Ой, дай жэ, божэ
Ныдількы дождаты.
Ці нэ прыйдэ моя маты
Мэні довідаты.

Нідилька мінае
Маты ны бувае.
Сушыть-крутыть сэрэдыньку
Ныхто ны відае.

Шчоб я мала крыльцы,
Соколовы вочы,
Полытіла б до матэнькі
Тэмненькіе ночы.

Зайшла б до матёнкы,
Сіла б на порозы,
Полылыся у матёнкы
Дробнэнькі слёзы.

Ой, годь, мамо,
Гіркі слёзы лыты,
Порадь мэні, мое мамо,
Як на світы жыты.

Чы мні гороваты,
Чы мні быдоваты,
Чы звязаўшы головоньку,
Усёй світ мандроваты.

Мандруй, доня, рочок,
Мандруй другый,
Як розуму набырэшся,
Назад повырыныся.

# СІРЫТКА

Ішла сірытка лісам і борамы,
Плакала сірытка дрыбнымі слезамі.
Встрэців еі Господзь, став яе пытаці,
Куды ідзеш, сірытко, маценькі шукаты?
Нейды, сірытко, бо далеко зайдзеш.
Твоя маценка на высокіх горах,
Твоя родненька ў лыжушчэм гробе.
Зайшла да маценкі і стала плакаты,
Ой, чы пачуе, моя рідна маты.
Маценка почула і стала казаты.
– Іды тэ, дзіцятко, ідэ тэ дадому,
Нех табе мачэха вымые галоўку.
– Шчэ мне мачэха галоўкі не мыла,
Вжэ мене мачэха на вік загубіла.
Прыйшов тай час сірытцы уміраці.
Прыйшло два анёлы ее душу браты.
Прыйшов тай час мачэхе уміраці.
Прыйшло два пякеўні еі душу браты.
Взялі еі гокамы под бокі,
Понеслі еі ў пекла глыбокі.

# ВЫРАДЫЛА МЭНЭ МАТЫ

Вырадыла мэнэ маты
В ліс калыны наламаты.
Я калыну нагнула,
Калына зломылася,
Калына зломылася,
Дівчына злякалася.

Дівчына злякалася,
Дэ доля поділася.
Одозвалася доля:
– На тым боцы мора.
Ой, долё, мое долё,
Чаму ты ны такая,
Як людская, добрая.

Люды нычого ныроблять
І хорошэнько ходять.
Я роблю, поробляю
І нічого нымаю.

# ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

1. Іды, маценко, паглядзі,
Ці хораша дачку повэлі.
Ой, у повэлі, уквітовалы,
Як зэзульку на колыні.
Іды, батэнку, поглядзі,
Ці хораша дачку повэлі.
Ой, у повэлі, уквітовалы,
Як зязульку меж орламі
За моім столом сядзіць.
(дзеўчатнік)

2. Ой, моі мілы ворогі,
Не пераходзыце дарогі.
Нехай перейдзе господзь Біг,
А мой баценько поперыд.
(як до вэнцу ведуць)

3. Маршалкі верховыя,
В вас коні вороныя.
Ідзеце паперадзе,
Лонітэ рожаньку,
Стэлітэ дорожэньку,
Молодый і молодому
До бож’его дому.
(до вэнца)

4. Обмунулы мы папа,
Як добрага клопа.
Далы ему трыячышчэ,
Він думаў, шчо рублішчэ.
(з цэрквы)

5. Ідэ сэстрынко, повечэраймо зо мною.
Повечэраўшы, раздзінымся з тобою
Тобі, сэстрынко, у дома буты,
А мне до людок пайсці.
Тобы, сэстрынко, старая скрыня,
Я мне новэнькая.
Тобе, сэстрынко, дома буты,
А мне до людэй пайсці.
(як выбралі маладуху)

# ЛЮБОЎНЫЯ ПЕСНІ



***ЛЫСЕНКО***
***Марфа Яковлевна,***
*1911 г.р., белоруска,*
*д. Леплевка,*
*Брестский район*

## СТОРОНОЮ ДОШЧЫК

Стороною дошчык, стороною.
Посію я руту над водою
Шось моя рута нэ зыходыть,
Шось мой батынько
　　　　до мэне нэ прыходыть.
А як до тэбэ, моё дітятко, прыбуваты,
За барвыночком
　　　　дорожынькы нэ знаты.
Найоколо, мой батынько, найоколо,
Нэ выдопчы барвыночка мойого.

## КУГО Я ЛЮБЫЛА

Куго я любыла,
На люды пустыла.
Куго я ны знала,
З тым ду шлюбу стала.

Ны дывуйтэ, людэ,
Шо я зковто коса,
Ны будэтэ грэбсты
За мэнэ пукоса.

Ны пукоса грэбсты,
Ны загона гнаты,
Хто за жоны возьмэ,
Возьмэ раком маты.

Ны дывуйтэ, люды,
Шо я упылася,
Яко моя мамця,
Така я вдалася.

Удвырнулася я в куток,
Пу дві чарочкы в роток.
Шобы люды не зналы,
П’янствуюся з малы.

# ПЛАЧЭ ЗАХМУРАНО НЭБО

Плачэ захмурано нэбо,
У задумы клёны сумны,
У задумы клёны сумны,
Нам сустракатысь ны трэба,
Тыхо ты мовыў мыні.

***Прыпеў:***
*Словом мынэ ны пораніш,*
*Вырность свою сбырыгу.*
*Хоть ты мынэ покідаеш,*
*Знай, шо тыбэ я люблю.*

Збудыця шчасце кохання,
Хай ёго доля дае.
Як ты посміў растоптаты
Пэршэ коханне мае.
***Прыпеў.***

Хай на полях громоўныці,
Я ны скоруся ў журбі.
Сэрцэ мое ны полюбыть
Бульш ныкого ў жыцці.
***Прыпеў.***

# ВЫЙШАЎ МЕСЯЦ ІЗ-ЗА ХМАРЫ

Выйшаў месяц із-за хмары
І всю даліну асвеціў.
Еі асвеціўшы всю даліну,
Він зноў за хмару заходзіў – 2 р.

А в той даліне е хатына,
А той хатыне два венка.
Там маты дочку навучала,
Дачка заплакана була – 2 р.

Ты в мэне доченька едына,
Ты в мэні ягодка одна.
Ты не жді козака з похода,
Яго на свеце вжэ няма – 2 р.

Багата хлопцев шчей на сама,
Багата хлопцев шчей не спа.
Багата парачак набралось,
А ты сядзіш усё сама – 2 р.

Не чуты ціхае размовы,
А цількі чуці плач дачкі.
На другі вечар за нелуба
Дачка роздала ручнікі.

# ДОБРЫ ВЕЧОР ВАМ, ДІВКІ

Добры вечор вам, дівкі,
Чері-гара, чурарам.
Я прыйшов на вечоркі.
Ку-ку.

Пару коні я ўкрав,
Чері-гара, чурарам.
За граніцю одыслав.
Ку-ку.

За граніцю одыслав,
Чері-гара, чурарам.
Сам на каторгу попав.
Ку-ку.

Продай, бацька, жырыбця.
Чері-гара, чурарам.
Выкуп мэнэ молодця.
Ку-ку.

Я жэребця ны продам.
Чері-гара, чурарам.
Як попався, сіды сам.
Кукай.

Продай, маты, коровы.
Чері-гара, чурарам.
Выкуп мэнэ зніволы
Ку-ку.

Я коровы ны продам.
Чері-гара, чурарам.
Як попався, сіды сам.
Кукай.

Пока бацько всё продав,
чері-гара, чурарам,
Я сам краты поломав.
І вцік.

Добры вечор вам, дівкі.
Чері-гара, чурарам.
Я прыйшов на вечоркі.
Ку-ку.

## ОЙ, НАДЫШЛА ЧОРНА ХМАРА

Ой, надышла чорна хмара,
А за ею сыва.
Чы е в світы тая друга,
Як я нышчослыва – 2 р.

Хожу, брожу по ўсім світы,
Як місяць у крузі,
Усі сэрця высыляцца,
Мое заўжды ў тузі – 2 р.

Запрагайтэ, хлопцы, коны,
Коны вороные.
Дай поідым догоняты
Літа модые – 2 р.

Гналы, гналы дай догналы
На зэліным мосці.
Ой, вэрнітэсь, мої літа,
Хай до мэне ў госці – 2 р.

Ны вырнэмся, ны вырнэмся,
Бо ныма до чого.
Було літо шануваты,
Як здоровья свого – 2 р.



***НОВАК Пелагея Федоровна***
*1930 г.р., образование среднее,*
*д. Леплевка, Брестский район*
*Запись 1991 г.*

# КАТЭРЫНА

Катэрыно, утчыныно,
Катэрыно, устаньно,
Дай мні пыты, дай мні йісты,
Як то будэ файно.

Катэрына утчыныла,
Катэрыно устала,
Дала пыты, дала йісты,
Шчэй поцыловала.

Дала пыты, дала йісты,
Шчэй поцыловала,
Сколько у мэнэ було грошэй,
То віна забрала.

Я до тое Катэрыны
Ны пуйду ныколы,
Бо ду йеі хлопцы ходять,
Як діты ду школы.

# ОЙ, У НЫДІЛЮ РАНО

Ой, у ныділю рано
Самагонку гнала,
У бочычку злывала – 2 р.
Я свого сыночка з арміі чыкала.

Ой, прыйды, родына,
Горылоньку пыты – 2 р.
Я з своім сыночком
Буду говорыты.

Ой, сыну, мій сыну,
Сыну найміліішы – 2 р.
Скажы шчыру праўду,
Хто тобі мілійшы.

Жынка мэні мыла,
Бо моя дружына – 2 р.
Тэшча мэні мылы,
Бо жынку рудыла.

Я ты муя маты,
Мусіш выбачаты – 2 р.
Як будэш казаты,
То выжыну з хаты.

Як будэш казаты,
То выжыну з хаты.
Пуйдэш у сад зэлёны
Зюзюлей куваты.

Ой, ты, сыну, сыну,
Сыну муй хорошы,
Чом ты мэнэ ны гоняў,
Як давала грошы.

Ой, чы я, то маты,
По сыне жыбрае,
Ой, того сына,
Шчо матынку мае.



***МИЛЕВСКАЯ***
***Валентина Иосифовна,***
***1959 г.р., д. Лыщицы,***
***директор Лыщицкого***
***Дома культуры***
***с 1978 по 2012 гг.***

# Колокольчик звенит – душа радуется

## О приметах, предсказаниях и гаданиях

– Я родом из Ивацевичского района, из-под Телехан. Колонск – там такая деревня есть. Отец работал шофёром, мама – простая была труженица.

– Может, они вам что-то интересное рассказывали? Нам вот интересны ваши традиции, как разные сны объяснялись. Вот, например, река, вода, к чему снятся, как вы думаете?

– У нас на родине говорили: «Вода – это беда». Это значит, если приснилась вода, то это к болезни. Если снилась рыба, как вы знаете, это значит к беременности. Увидели живую рыбу, значит, женщина, девушка забеременеет. В других деревнях говорят: «Прибыль».

– Вот конь к чему?

– Значит, конь, было три вида: если снился белый конь - это свадьба, если, ой, наоборот, чёрный - смерть, красный конь – огонь. Красный конь у нас также к пожару.

– А собака?

– А собака когда лаяла - это тоже к беде. Лай собаки – это приводит то ли к пожару, то ли к каким-то бедам.

– Но это во сне или наяву?

– Во сне, во сне это.

– Когда воет собака настоящая?

– Когда воет собака по-настоящему, то говорили в старину: «Если собака воет вниз, значит, это к покойнику, а если собака голову поднимает вверх, то это к пожару».

– Если там птички, например, какие-нибудь, курица или что-нибудь такое?

– А птичка, если в окно постучит – то это какое-то известие будет. Письмо придёт или гость какой-то. Но есть и как вот у нас, допустим, совы, ночью они плачут, как дети. И когда сова чувствует покойник в доме, она сядет на сарай и будет плакать. Я сама лично на своем опыте убедилась. Помню: шла со своей бабушкой, мы так гуляли, дети. А я говору: «А шо там як сова плачэ?». А вона кажэ: «Это к покойнику». И правда, через неделю был покойник. Были также различные предсказания, к примеру, гадания на курей. Я сама гадала.

– Это на Коляды или когда?

– Гадали мы на Коляду. Значит, я з своими подружками насыпали кажда горсть зерна. И на чёрну курыцу, никакую, а чёрную. Мы, этэ самэ, значит, первая была моя подруга, вторая, а я трэтя была. Поймалы чорну курыцу, что вы думаете? Она клюнула их первую, вторую, а мою нет. И правда: те быстро замуж вышли, а я так и осталась.

– Вот тебе и чёрная курица.

– Да. Чёрная курица, такая нет, а чёрная. И не петуха, как говорят, курыцу почему-то.

– С зеркалами не гадали?

– С зеркалами гадали. У нас, знаете, что было? Одна девушка, значит, нужно было залезть на чердак, и в камине, ну труба эта, в 12 часов ночи поставить зеркало, сесть перед зеркалом, зажечь свечу и сказать там какие-то слова: «Суженый, ряженый покажись мне там...», – ну шо-то таке. И одна девушка, так сделала, села вот она просидела, ну минут, наверное, 10 и глядь у зеркало и вдруг у неё за спиной показывается тень. Она онемела, просто потеряла дар речи, что увидела какой-то силуэт. Вот. Она бросила то зеркало, зеркало розбылось, она давай крычать, так перепугалась. Но она такая была, не боялась ничего. Испугалась. И уже мать успокайвала, успокайвала, и шо вы думаете? Вышла она замуж, и этот же муж погиб, разбился. Представляете? Она побила зеркало. Этот муж разбился.

– А разбился как?

– На машине. В автокатастрофу попал.

– Колокольчик почему хотите повесить?

– Колокольчик оберегает от всех недугов.

– Оберегает от чего?

– От плохих людей, от плохой энергии. Вот у нас, допустим, дома, помню, что некоторые наши бабушки вешали колокольчики. У нас один был высокий, то колокольчик, – бах, ударится, потому что ну вот такие предсказания были. Не знаю, правда, неправда на самом деле. И этот колокольчик имел звон. В каждом месте особый какой-то звук был. Когда была мёртвая зона, допустим, бывает же так у нас мёртвая зона, значит, был звук глухой. А когда было действительно пространство хорошее, там был звонкий звук этого колокольчика. И вот с тех пор начали вешать эти колокольчики.



# Об именах и названиях

– У нас дома, допустим, меня не называли Надя, а Надюха. Если скажешь «Надя Милевская», люди не знают, кто такая. А если скажешь «Надюха Милевская», то знают. Если был злой человек, соответственно была такая и менушка.

– А передавалась она от отца к сыну?

– Ну да. Вот, допустим, мою бабушку звали, ну, она полячка, Марыля. Вот. Ну, так как православные, значит она, бо православные в церкви Марыли к причастию не допускали, потому шо и о здравии надо писать именно Мария, а не Марыля. Мою сестру тоже называют Марыля. Она Нина, но называют Марыля. Вот так-то так передавалось. У нас, допустим, один печник был, он работал всё по этих печах. Ну, его прозвали Люшка. Люшка – это шо засовается. По профессии. Он и остался Люшкой. Он всё время люшки эти ремонтировал.

– Здесь Брестский район, Брестский регион. А скажем, туда в Полесье, где вот Пинский район, Ивацевичский район – там это очень вкоренено. Там и девушку могут обозвать, так сказать, не весьма. Названия мест, которые тут у нас, тоже и в Лыщицах есть, Курилово.

– А почему Курилово?

– Наверное, от дыма, который курился или, скажем, от кур...

– У нас деревня была такая, Пэняки. На местном. Почему именно Пэняки? Там росли опёнки, очень много. И так люди назвали Пэняки.

– Часть леса?

– Да.

– А ещё что?

– Была такая Чэрэтинка. То есть, такая огромная территория, где рос чарот. Па-беларуски чарот, а вот уже по-местному чэрэт назывался.

– А в какой деревне это?

– Это Колонск, Ивацевичского района. Вот, ну у нас много на то время обрядов проходило интересных. В частности забытый обряд «Куст». Редкий сейчас обряд...

# Об обрядах

– Интересно было. На Пасху. Вот как мне было лет семь, на нашей улице ставили столы. Вот, допустим, средина улицы, люди выносили столы, всё, кто что приготовил: мясо, колбасы там, холодцы и так далее. Ставили на эти столы. Музыка, танцы.

– На первый день Пасхи?

– На первый. Это было очень красиво. А мужчины одевали, значит, хромовые чоботы, со скрыпом, такие были, если вы помните. Ходили раньше, такие сапоги называли яловые. Они были блискучие, блестящие, со скрыпом. Специально делались. И в этих сапогах идут они: – Трэсь, трэсь, трэсь, трэсь! – эти сапоги. Одевали тоже сюртуки какие-то. Насколько помню, каждый мужчина одевал пояс. Вот были у нас такие пояса. По-моему, даже пять поясов из Слуцка привозили. У нас родственница жила в Слуцке, на то время начиналось производство этих поясов. Вот, нам привезли вот такой ширины пояс, долгое время он у нас хранился, потом батько его десь применил в своих целях, я уже не знаю. Надевали на Пасху сорочки, подпоясывались этим пояском. Штаны были такие, як я помню, в полосочку, такая рябая серая полосочка была, одевали и вот эти чоботы хромовые. И наверх тоже, ну у кого что было. Вот это был

такой праздничный наряд Пасхи. То же самое женщины одевались, самое красивое такое вот, одёжка. Делали петушки, свистульки. У нас один был мастер по свистулькам.

– Из чего?

– Он делал их из глины, а потом из дерева вырезал. Он всему селу тые свистульки делал, уже усе ёлки свистят, село гудит.

– А яйца катали?

– Катали, да.

– А как, расскажите.

– Знаете, я уже не так помню. Однажды мой брат смастерил деревянное яйцо. Мы покрасили его, как положено, ну и надо для того, чтобы, был обычай, шо стукнешь у яйцо, если, этэ самэ, тебя побил, значит – надо забирать. Потом мы пошли в деревню с этим яйцом, там уже в центр. Ну и брат говорит: «Давай, спорим, шо вот». А той: «Ни, моё, ой, моё все побило! Ну, давай спорим?». Ну поспорили на шо-то, и той: «Тах!». И его разбилось. Вот. И не узнали, шо это деревянное яйцо было.

– А скажите, у вас в какой цвет красили яйца?

– В красный, в луковой шелухе.

– Носили на могилу яйца в старину?

– Носили. У нас и сейчас носят.

– А сколько: пара – не пара, по одному?

– Хто как ложил, и два и три.

– Что ещё?

– Ну, у нас ещё носилась пасха, булочка, яйца, и носились, то блюдо, которое любил покойник, и водичка.

– Простую воду?

– Если есть святая, если – нет, то простая вода. Вот, и у нас до сих пор, чи мы сами, уже мои родственники поумирали. И мы сами носим. Вот, моя мама любила селёдку очень, покойная. Ну, мы берём кусочек селёдки и несём на могилу.

– А сами не кушали ничего? Просто оставляли? На могилах не принято было выпивать ничего?

– Нет, это такой дурной обычай, то ужас, выпивка на могилах, потом шчэ и песни поют. Я уже была свидетелем здесь, в этом регионе. У нас такого нет дома. Ну, может быть, знаете, якой-то пьяница забредёт. А так нет.

– А здесь, вы рассказываете, видели такое?

– Ой, тут сплошь и рядом. Здесь, ну, я не хочу обо всех людях, а те, которые непорядочные. Берут сумку: водка, закуска. Приходят на могилу, ну, там шото уже постояли, пожурылися, сели, накрыли, как говорится, поляну, сели, сидят, пьют. Это они так поминают покойника. А там и на песни потянуло кого-то. Это, я считаю, кощунство. Это недопустимо.

– А это на какой день у вас ходили?

– У нас на могилу ходили через неделю ну, допустим, если Пасха в это воскресенье, то на следующее. У кого-то во вторник, кто-то в четверг ходил, в каждом регионе своё.

– А здесь как ходят?

– Здесь тоже, через неделю ходят. Хотя на Радуницу, если, допустим, брестские приезжают, где-то дети на выходной, Радуница, когда там во вторник, ну на выходные приезжают.



# Толкование снов, знаки

– Скажите, а вот как тут народ или у вас там дома говорили, если мёртвые снятся?

– К перемене погоды.

Мне приснился однажды сон. Вот там на перекрёстке, где мы поворачивали, ко мне со стороны ж/д вокзала вышла Богородица в таком бирюзово красивом цвете, высокая – два метра, и вот она стала на перекрёстке. Я стала перед ней на колени и я крещусь, и я прошу: «Помогите! Помогите! Помогите!». Она на меня так сверху смотрит. Я проснулась, в холодном вся. Она ушла в ночь. Боже, я не могла до утра дожить, что это, к чему? На такое плохое что-то приснилось, предвестник чего-то, если Богородица приснилась. Я батюшке звоню, говорю: «Так и так». Он говорит: «Ну, может, это такой сон был». «Знаете, – говорю, – дрожь какая-то. Что-то не так». «Как она была одета?». Ну, говорю: «Так, два метра». На самом деле, Богородица была два метра. А это цвет, как на иконе. У меня она там висит, на входе, в первом коридоре. Именно в такой она была, всё так же. Я запомнила всё: цвет, говорю: «Такой бирюзовый». Я вот ищу эту икону, в бирюзовом одеянии, я не нахожу. В синем, но не в бирюзе. Вот. И поехала я в Брест к батюшке. Заехала возле ЦУМа и рассказываю: «Знаете, что это, к чему бы?». Сказал такой батюшка: «Да чё...». «О, – говорю, – простите». И ушла. Вот в Черске, батюшка, отец Сергий, у нас когда-то здесь работал. Я ему позвонила, говорю: «Так и так, – говорю, – к чему бы это?». Он говорит: «Не бойтесь, сходите в церковь, значит, вы совершили какой-то поступок, о котором она вас предупредила, больше не совершайте этого». Ну, я села, думаю: «Боже, что я совершила, ни убила, ни прокляла никого, ничего такого, этэ самэ, не сделала». А потом я вспомнила: «Я ж не поминула на родительскую субботу своих». Забыла, просто забыла своих родичей. Говорю батюшке: «Так и так, слушайте, я забыла». «Ну, говорит, возможно она вам напомнила об этом». Этэ самэ, у мене уже как-то и настороженно я к таким вещам. То, что сны снятся порой, мне кажется, вот и предсказывают что-то. Ну, может, хорошее и плохое, всё может быть, вот. У нас дома случай тоже был. Наш сосед ехал до Ивацевич и говорит: «Вижу, стоит белый силуэт и коса, – говорит, – я резко затормозил, и настолько резко затормозил, что мову отняло, дух забило, – говорит, – всё трясётся, и не, этэ самэ, – говорит, – не знаю пока я не помню, когда пришёл в себя». Оказывается, за 200 метров произошла авария. И вот он именно это его приостановило, шоб туда не поехал. Я в такие какие-то сверхъестественные верю. Не во всё, но то, что кто-то предсказывает какие-то силы, я думаю, что в этом что-то есть. Вот. Хотя по-церковному это грех говорить, говорят, что это нельзя, это шарлатанство, ну, я не знаю. В Кустыне вот здесь был случай, ну, уже лет может 20 назад. У нас погибла девушка, её подбили. Красивая, после выпускного бала, коса такая, всё. Красавица и ехал контроль, Брест, машина с автоколонны, уазик, не уазик, а рафик. Ехали уже около 10 вечера было. Уже сумерки. Была осень, шо вы думаете, ему перед глазами перебегает эта девушка дорогу и он всё, падает в обморок, он не может, то все, ревизор: «В чём дело?». Говорит: «Я подбил девушку». Я сама ходила на то место, бо моя сестра работает. «Сходи, – говорит, – там авария произошла какаято». Хорошо. Я побежала туда. В радиусе километр ищут девушку, ищут, бегают, этэ самэ, уже вызвали там, ищут, нету девушки. Я пришла, говорю: «Слушайте,

у нас здесь погибла девушка. Вам показалось в глаза, здесь, – говорю, – на этом месте погибла, вот расскажите, какой она была?». Он рассказывает. Да, точно, точно, в этой одежде, коса длинная, красивая всё. Я говорю: «Вот так шо-то». А там этот памятник, ну, вернее, крестик поставили, не освящался возможно, может быть, и духи, или там ходит душа. Я не знаю. Вот там на том перекрёстке уже столько было, этэ самэ, то я уже батюшку просила: «Освятите, бо там, говорю, какие-то беды всё происходят у нас». И той мужик не смог доехать, вызвали. Так вот бывает чудеса и вот бывает. А как ехать в деревню Лыщицы вот, как вы поедете, там на перекрёстке то же самое: ходит человек в шляпе. И всё тоже пугае.

– Как он там появился?

– Ну, кто его знает, там было кладбище.

– В тёмной шляпе, да?

– Да, вот как-то так ходит.

– Что ваша бабушка делала для того, чтобы куры несли большие яйца?

– Моя баба шептала им шо-то.

– А когда? Может на какое-то время определённое, в праздник?

– Не, она вот, когда садила квактуху на яйца, то шо-то шептала им. У неё была своя молитва какая-то. Шептала какой-то заговор, шоб, этэ самэ, были. И шо вы думаете? Был один петух, остальные все курочки.

– Правильно сделала она?

– Да, главное все выводились, не то шо там были какие-то заморки или что. Все выводились.

– А эти яйца вот, скорлупу куда девали, от Пасхи, от свечёного?

– Их спальвали.

– А на Тройцу зелень у вас куда-нибудь вешали?

– Да, на образ, на икону.

– А что именно?

– Ну, хто вербочку, хто ветку там берёзки, хто...

– Потом куда их девали?

– Год, этэ самэ, а потом сжигают. Но при этом тоже читается молитва, но спрашивали у батюшки разрешения, можно или нельзя сжечь.

– Это где: в Ивацевичах или тут?

– Тут, и там, и там.

– Спасибо вам большое. Мы много нового узнали о вашей деревне, обычаях и традициях. Мы с вами не прощаемся, а говорим: «До новых встреч!»

*Записала Ольга СТРУГ,*
*студентка филологического факультета БрГУ им. А.С. Пушкина.*
*Запись 2013 г.*

*(Сохранены стилистика и орфография авторской речи)*

*Рисунки к разделу подготовлены Антоном Мартынюком*





***Іна Швед,***
***доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускага літаратуразнаўства БрДУ імя А.С. Пушкіна***

# «ГРАМНІЦЫ – ПАЛОВА ЗІМІЦЫ»

Грамніцы (Громныцы, Стрэчанне, Устрэчанне) – нерухомае свята календара, сімвалізуе сустрэчу Старога і Новага Запаветаў. Па праваслаўным календары гэта «пераломнае» свята – Стрэчанне Госпада нашага Іісуса Хрыста – адзначаецца 15 лютага, па каталіцкім – Ахвяраванне Пана – 2 лютага. «Это Встречіны, перед Паскію уно, Грумныцы, зімой, 15 фівраля» *(Скокі, ад Косюк Марыі Пятроўны, 1925 г.н., бел., пісьм., правасл., прыезджая з в. Баброўцы Брэсцкага р-на*)*. Святкуецца яно ў памяць аб сустрэчы (царкоўнаславянскае – Сретение) немаўляці Хрыста ў Іерусалімскім храме са старцам Сімяонам, якому было адкрыта, што ён не памрэ, пакуль не пабачыць Збавіцеля, і 84-гадовай Ганнай-прарочыцай, якая ўслаўляла Збавіцеля. Божая Маці з Іосіфам, паводле старазапаветнага закону, прынеслі немаўля ў храм разам з ачышчальнай (хоць Божая Маці не мела патрэбы ў ачышчэнні) і ўдзячнай ахвярай Богу.

У гэты святочны дзень у храмах абавязкова асвячаюцца васковыя свечкі – грамніцы. Свечкі – больш доўгія і тоўстыя, чым звычайныя, рыхталіся для асвячэння напярэдадні Грамніц, сёння яны купляюцца ў храме. На свечку маглі навязваць льняную нітку, якая, як лічылі, валодала гаючымі ўласцівасцямі. Пасля заканчэння літургіі (імшы) тыя, хто жыў недалёка, стараліся данесці запаленую свечку дадому. Астатнія ж тушылі яе, а калі ўваходзілі ў хату, перш за ўсё запальвалі грамніч-

ную свечку. З гэтым сакральным агнём, што надзяляўся ачышчальнай і гаючай сілай, абыходзілі хату і іншыя збудаванні, выпальвалі крыжыкі над дзвярыма, на бэльцы. «А што рабілі на Грамніцы? – Крестікі ставылы над дверямі». *(Скокі, ад Косюк Марыі Пятроўны).* Сямейнікам свечкай маглі падпальваць валасы «на здароўе» і каб не баяліся грому. Пасля свечку тушылі і старанна захоўвалі на працягу года, часта ў чырвоным куце, за абразамі.

У розных жыццёвых выпадках спадзяваліся на дапамогу грамнічнай свечкі. Была яна абавязковым атрыбутам пахавальнага абраду: «Кулы пукойнік пумрот, то свечкі палылы, ставылы, то вжэ цэлу ноч гурыть. Раньшэ довго, якіх-нэбудь чэрэз тры дні, хурунылы это того» *(Скокі, ад Косюк Марыі Пятроўны).*

Выкарыстоўвалі грамнічню свечку і ў народнай медыцыне. Прыкладам, спалоханаму дзяцяці ёю падкурвалі валасы. Асабліва часта грамнічную свечку ўжывалі для «спальвання рожы»: «А рожу як лячылі? – Берет восковую свечу от Громниц. На этот праздник покупали свечи. Они освещенные и бабки льном повязывали. Этот лен, вот именно, почему льном потом рожу лечили. Там както кольца вьют, 9 колец ложат на ногу, потом их жгут и оно там лечится. При этом приговаривали: «От ветра, от воды, от злых людей, от меня ты отойди» *(Падлужжа, ад Несцярук Лідзіі Іванаўны, 1945 г.н., бел., пісьм., правасл., мясцовая)*; «А как рожу лечат? – Вычитывают: красная тряпка, мел. Зажигают красную тряпку. Есть вот этот праздник... бывает, что свеча с этим... на Грамницу. Отрывают кусочек этой красной тряпки, накладывают на эту рожу. И вот эту грамничную свечку держишь и этот кусочек запаливаешь и выпаливаешь. Но молитву надо читать» *(Брэст, ад Несюк Клаўдзіі Пятроўны, 1934 г.н., рус., прав., прыехала з в. Падальхі Курскай вобласці (Расія) у 1969 г.).*

Важным атрыбутам лекавага рытуалу быў асвячаны на Грамніцы лён: «Була жэншчіна, которая рожу выпальвала. То уна рожу выпальвала. І красную тую о кладэ і выпальвае. І паліт, кладёт лён свячоный, шо святэть на Стречіны (Грумныцы) і вжэ уна выпалюе. А сейчас нету такіх» *(Скокі, ад Косюк Марыі Пятроўны).*

Верылі таксама, што грамнічнай свечкай можна суняць пажар, навальніцу, буру. «А когда гром быў, што рабілі? – Свечку-грамнічку ставілі на стол, шоб буря обошла» *(Орхава, ад Жук Сафіі Трафімаўны, 1926 г.н., правасл., мясцовая, скончыла пяць класаў).* З грамнічнай свечкай маглі выганяць першы раз свойскую жывёлу ў поле.

Гаварылі, што на Грамніцы зіма з вясною першы раз сустракаюцца. «У нас в народе говорят – Обрэтэние. Птица обрэтается, говорят, с юга возвращается сюда. У нас такое говорили, например, а правильно называется Сретенье, как Иисуса Христа принесли в храм» *(Падлужжа, ад Несцярук Лідзіі Іванаўны).*

Таму на Грамніцы («палова зіміцы») уважліва сачылі за надвор'ем, характар якога паказваў на тое, якімі будуць вясна, лета, будучы ўраджай; асаблівыя ўзаемадачыннені ўсталёўваліся між Грамніцамі і Юр'ем: «На Грамніцы нап'еццa пэвень вадзіцы» *(Збірагі, ад Калчук Р. В., 1938 г.н., бел., правасл.)*; «Як на Стрэчанне петух нап'еццa водіцы, то на Юр'я карова наесца травіцы» *(Кустын, ад Брык Яўгеніі Мікіцічны, 1939 г.н., пісьм., правасл., мясцов.)*; «Як на Грумнэцы напьецця півынь водэцы, то на Юрья наісьця выл травэцы» *(Прыбарава, ад Пенцак Надзеі Іванаўны, 1952 г.н., бел., прав., мясцовая).*

